**№ 62 (1875)**

Чацвер, 8 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +7...+9, уначы — +5...+7, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +6...+8, уначы — +5...+7, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +7...+9, без ападкаў, уначы — +4...+6, дождж; у Гомелі ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +6...+8, дождж, уначы — +1...+3, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## «5+» выклікае А.Лукашэнку на тэледэбаты

Народная кааліцыя **"5+"** выклікае Аляксандра Лукашэнку на дыскусію ў прамым тэлеэфіры. Падставай для з'яўлення заявы сталі выказванні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, зробленыя на пасяджэнні брэсцкага абласнога актыву. Тады кіраўнік дзяржавы абвінаваціў апазіцыю ў дэструктыўнай і радыкальнай дзейнасці.

"Стала ўжо традыцыяй, што чалавек, які называе сябе прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, не адказвае за свае словы і не турбуецца, каб адшукаць доказы. Здаецца, што ён пастаянна жыве ў нейкім скажоным, нерэальным, ім самім прыдуманым свеце сярод уяўных ворагаў," — гаворыцца ў заяве "пяцёркі". Аўтары заявы прапануюць А.Лукашэнку "набрацца смеласці і выйсці ў свет, да людзей", якіх ён "бадай кожны дзень палівае брудам".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Э.Хайкен спадзяецца...

"Я не пакідаю спадзяваў на тое, што беларускі ўрад будзе праводзіць палітыку ў адпаведнасці з абавязацельствамі, якія Беларусь узяла на сябе як краіна — удзельніца АБСЕ". Такую заяву зрабіў кіраўнік місіі АБСЕ ў Мінску Эберхард Хайкен у інтэрв'ю БелаПАН падчас свайго першага афіцыйнага візіту ў Брэст.

Э.Хайкен быў прыняты кіраўніцтвам вобласці і горада Брэста, а таксама сустрэўся са студэнтамі і выкладчыкамі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна і кіраўнікамі шэрагу грамадскіх арганізацый абласнога цэнтра.

Выклікае занепакоенасць, паводле слоў Э.Хайкена, сітуацыя са свабодай СМІ ў Беларусі. "Юрыдычныя і адміністрацыйныя захады працягваюць прымяняцца супраць газет — такіх як "Белорусская деловая газета", "Народная воля" і іншых, менш вядомых, газет у рэгіёнах, — сказаў ён. — Я разглядаю сітуацыю як вельмі сур'ёзную і вельмі занепакоены гэтым".

**Таццяна БЯЛОВА.**

## Людзі ўкладваюць грошы ў золата

Больш як на 44,5 кілаграма залатых мерных зліткаў прададзена Нацыянальным банкам Беларусі за першы квартал гэтага года.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, попыт на залатыя зліткі пастаянна расце. Калі летась штомесяц рэалізоўвалася грамадзянам у сярэднім каля 8 кілаграмаў такога золата, то ў студзені-сакавіку гэтага года — амаль у два разы больш.

Апошнім часам найбольшай папулярнасцю сталі карыстацца 10-грамовыя зліткі, якіх у першым квартале прададзена звыш 600 штук, ці амаль адна трэць ад агульнай колькасці. Таксама карыстаюцца попытам адна- і 20-грамовыя мерныя зліткі.

**Аляксей АРЭШКА.**

**У СОСЕДЕЙ**

# Паксас «пролетел»...

**Впервые в истории Европы глава государства был отстранен от должности в результате импичмента. И произошло это в стране, еще недавно жившей по советским законам.**

Со вчерашнего дня в Литве нет президента. Временно его обязанности будет исполнять председатель литовского сейма **Артуро Паулаускас**.

Коллеги из Вильнюса говорят, что сейчас в литовской столице ничего особенного не происходит. Город живет обычной жизнью. Сравнивать недавние события в Литве с тем, что происходило в Вильнюсе в 1991 году, никому даже не приходит в голову. 6 апреля на улицы Вильнюса, точнее, к зданию сейма, вышло только около 700 человек — сторонников политики Паксаса. В основном это были жители регионов, которых привезли в столицу из провинции. А вчера около здания сейма вообще не наблюдалось каких-либо массовых выступлений.

Как известно, во вторник литовский сейм проголосовал за импичмент президенту. Голосование было последним этапом долгой процедуры отстранения от власти главы государства. Накануне Конституционный суд признал справедливым три из шести предъявленных Паксасу обвинений.

Дебаты в сейме были долгими и жаркими. В понедельник сейм заседал до глубокой ночи. Во вторник депутаты приступили к голосованию только в 16 часов. Паксас, воспользовавшись законным правом, выступил перед парламентариями с последним словом. Его речь длилась 25 минут. *"Неужели несколько допущенных мною ошибок, в которых я искренне раскаялся, заслуживают отстранения? —* обратился президент к парламентариям. — *Неужто вы сами, мои недавние коллеги и соратники, никогда не ошибались?"*

Но речь Паксаса уже не повлияла на решительность парламентариев. По первому и второму пунктам за импичмент проголосовало 86 депутатов, по третьему — 89. Отказались от голосования только члены пропрезидентской фракции в сейме.

Свое отстранение от должности Паксас перенес тяжело. Во вторник вечером, сообщила литовская газета "Республика", он попал в больницу. У экс-президента поднялось кровяное давление, что было вызвано скорее всего нервным перенапряжением.

Досрочные президентские выборы в Литве должны состояться через два месяца. Их точную дату в течение 10 дней обязан объявить сейм. К слову, ныне действующая Конституция позволяет Паксасу вновь принять участие в выборах.

*— Не исключено, что Паксас снова может победить на выборах,* — говорит корреспондент литовского канала LTY **Татьяна Поклад**. — *Литовские аналитики считают, что избежать этого можно только в том случае, если выставить на досрочных выборах единого кандидата.*

*Скорее всего им может стать нынешний премьер-министр Литвы* **Альгирдас Бразаускас**, *руководивший страной вс 1993 по 1998 год. Сегодня он очень популярен в Литве, ему доверяют в регионах. Это именно тот человек, которого можно противопоставить Паксасу именно в глазах сельских жителей. Правда, до последнего момента Бразаускас говорил, что не собирается выставлять свою кандидатуру на президентских выборах.*

*Бывший президент Литвы* **Валдас Адамкус** *заявил, что не будет участвовать в президентской кампании, если Бразаускас все-таки пойдет на выборы. Чтобы не заслонять Бразаускаса.*

*Во вторник вечером официально отказался от участия в президентских выборах спикер литовского парламента* **Артуро Паулаускас**. *Так что вполне вероятно, что будет реализована идея с единым кандидатом.*

Вчера в Литве здание администрации президента стали покидать советники бывшего главы государства, их помощники, референты. Согласно литовским законам, всем им будет выплачено двухмесячное выходное пособие. Смена президентского корпуса, сообщает ИТАР-ТАСС, обойдется государственной казне примерно в 60 тысяч евро.




**Мария ЭЙСМОНТ.**

**БЛІЦ-АПЫТАННЕ**

# Лукашэнка мог «праляцець» раней Паксаса

## Калі б не здрада часткі беларускай палітычнай эліты

**"Літоўскі парламент упершыню ў еўрапейскай гісторыі зняў з пасады прэзідэнта, які парушаў закон. Чаму Вы не здолелі зрабіць тое ж самае ў лістападзе 1996 года?",** — *з такім пытаннем мы звярнуліся да некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія амаль восем гадоў таму ініцыіравалі імпічмент прэзідэнту Лукашэнку.*

***Людміла ГРАЗНОВА:***

— Нам не ўдалося зрабіць гэта па дзвюх прычынах: унутранай і знешняй. Справа не толькі ў тым, што некаторыя з Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда спужаліся і не давялі запланаванае да канца. А справа ў тым, што народ у той час не быў гатовы да такіх радыкальных дэмакратычных дзеянняў па выкананні Канстытуцыі. Ён усё яшчэ спадзяваўся на адзіную думку чалавека, які выконваў прэзідэнцкія функцыі. Знешні фактар адыграў, натуральна, вельмі важную ролю ў тых умовах, у адрозненне ад сённяшняй Літвы, Расія не згадзілася б з такім развіццём падзей у 1996-м, і яна ўсё зрабіла для таго, каб захаваць Лукашэнку пры ўладзе.

***Станіслаў ШУШКЕВІЧ:***

— Галоўныя прычыны няўдачы імпічменту-96 — здрада Валерыя Гур'евіча Ціхіні, які фактычна "заложил" 76 дэпутатаў, што падпісалі імпічмент, а таксама абмежаванасць розуму Сямёна Шарэцкага, які падпісаў незаконную дамову з Чарнамырдзіным, Строевым і Селязнёвым. У Літве зараз высокі ўзровень кваліфікацыі палітыкаў, яны дзейнічаюць па законе, у адпаведнасці са сваёй Канстытуцыяй і сваімі перакананнямі.

***Андрэй КЛІМАЎ:***

— Літоўскі сцэнарый у нас тады не прайшоў, па-першае, таму, што мы занадта рускія, мы яшчэ ў часы знаходжання ў складзе Савецкага Саюза ідэнтыфікавалі сябе як рускіх. І таму любая дапамога ад "старэйшага брата" ўспрымалася не толькі як дапамога, а як кіраўніцтва да дзеянняў. Цяжка сабе ўявіць сітуацыю, каб зараз Фрадкоў з Міронавым прыехалі ў Літву і паспрабавалі "ўрэгуляваць" сітуацыю з імпічментам прэзідэнту...

Па-другое, гэта была здрада старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, які падпісаў дамову, а фактычна — акт капітуляцыі, не прадугледжаны Канстытуцыяй. Яшчэ да роспуску Вярхоўнага Савета Лукашэнкам менавіта Шарэцкі сваім подпісам яго распусціў. Гэта была і здрада старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, які ў парушэнне працэдуры, перавышая свае паўнамоцтвы, прыпыніў разбіральніцтва справы аб імпічменце Лукашэнку.

У гэтай сітуацыі нельга абвінавачваць ні народ, які сабраўся бараніць Вярхоўны Савет, ні дэпутатаў, якія паставілі свае подпісы пад імпічментам. Былі, канешне, тыя, хто зняў свой подпіс: гэта Уладзімір Навасяд, цяпер дэпутат ППНС, і Генадзь Грушавы, які зараз у Польшчы. Іх дзеянні я не расцэньваў бы як здраду, гэта хутчэй маладушша і боязь, кагосьці купілі...

Зараз, калі з намі няма Ганчара, Захаранкі, Карпенкі, Завадскага і Красоўскага, я прыходжу да высновы, што тады, у 1996 годзе, нам трэба было быць больш мэтанакіраванымі — трэба было далучаць верных Канстытуцыі афіцэраў МУС і арміі, прыцягваць да адказнасці ва ўстаноўленым парадку за парушэнні Канстытуцыі Ярмошыну разам з Лукашэнкам.

***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:***

— У 1996 годзе Беларусь была аўтарытарнай дзяржавай, а Літва 2004 года — гэта прававая, дэмакратычная дзяржава, дзе працуе закон.

***Валерый ШЧУКІН:***

— У беларусаў і літоўцаў розны менталітэт. Калі літоўцы аддаюць перавагу свабоднаму жыццю, то большасць беларусаў гатовы поўзаць на каленях. Акрамя таго, літоўцы заўсёды дрэнна ставіліся да рускіх — я гэта на ўласнай скуры не раз адчуваў. А Паксаса злавілі на сумнiўных пагадненнях з рускімі, вось яму і адгукнулася. Паколькі нашы народы розныя, то і дэпутаты розныя. Літоўскія дэпутаты не баяліся выказваць свае думкі, а некаторыя нашы, як толькі ім прыгразілі, адразу ж, прабачце, здрэйфілі.

**Гутарыла Наталля ГАК.**



*Уважаемая редакция!*
*Убедительно прошу Вас, пожалуйста, напечатайте мое открытое письмо председателю Минского горисполкома М.Павлову.*

# Что тебе надобно, старче?..

## Открытое письмо председателю Минского горисполкома Михаилу ПАВЛОВУ

Уважаемый председатель горисполкома!

К Вам с нижеизложенной просьбой обращается ветеран труда и спорта, инвалид 2-й группы Юрий Александрович Ясинский.

Вот уже 20 лет я проживаю в Московском районе столицы по проспекту "Известия", 4-3-44.

10 февраля с.г. я получил счет-квитанцию из ЖЭС-90 на квартплату и был поражен. И вот чем! Оплата за отопление в декабре прошлого года была 31,1 тысячи рублей, а за подогрев воды — 27,7 тысячи рублей. За январь же нового года за отопление — 68,7 тысячи рублей, а за подогрев воды — 36,4 тысячи рублей, то есть эти два показателя сразу выросли на 46,9 тысячи рублей. Я, естественно, решил выяснить, с чем это связано, и пошел в ЖЭС-90.

Бухгалтер сразу отправила меня к начальнику А.Ф.Ракицкому. Он, посмотрев обе счет-квитанции, сказал, что это показания теплового счетчика, который находится в подвале нашего дома. Но как только я попросил ознакомить меня с его показаниями за декабрь и январь месяцы, то вот здесь и началось самое удивительное. Во-первых, счетчик "секретный" и его каждому не показывают, а во-вторых, есть журнал, в который записываются его показания и этот журнал у диспетчера. Но в этом журнале были данные только на 2 января, причем это видел и сам начальник. Тогда возник вопрос, а по каким же показателям уже насчитана оплата за январь?

Начальник ЖЭСа видя, что произошла накладка, заявил, что за эти данные он не отвечает, а отвечает ЖРЭО. Я пошел к начальнику отдела М.С.Дашкевич, которая сказала, что руководствуется служебными документами и распоряжениями свыше. Конечно, эти служебные документы она мне не показала, а когда я ей сказал, что буду обращаться в вышестоящие организации, она с вызовом ответила, что обращайтесь, пишите куда угодно, хоть самому президенту, но запомните, что мы будем вам начислять, а вы будете платить! Вот так...

Это показывает, до какой степени распоясались Ваши отдельные чиновники, и, видимо, потому, что им все сходит с рук. Видимо, они даже не понимают, что своими действиями подрывают и доверие к власти в целом, и лично к Вам. Надеюсь, что Вы способны навести должный порядок и в коммунальном хозяйстве.

Уважаемый мэр!

Два десятка лет я честно, добросовестно и своевременно оплачивал все коммунальные услуги. Допускаю, что могут быть ошибки (бывает, что через месяц-другой возвращают, видимо, взятые излишки), но данный случай — что-то другое... В связи с вышеизложенным прошу Вас назначить комиссию, в которую вошли бы и жильцы домов ЖЭС-90, по проверке не только данного случая, но и всей финансовой деятельности и ЖЭС-90, и ЖРЭО, а ее результаты нужно будет довести до всех жильцов ЖЭС-90, а их — тысячи.

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда и спорта,**
**житель г.Минска.**

## Паводка наступае

У выніку паводкі за мінулыя суткі аказаліся падтопленымі новыя тэрыторыі Гомельскай вобласці.

Паводле звестак прэс-службы МНС, сем жылых дамоў падтоплены ў Лоеве. У Веткаўскім раёне падтапіла 1,5 кіламетра дарогі, што вядзе з вёскі Старое Сяло ў вёску Палянаўка. З-за паводкі моцна ўскладніўся пад'езд да жылых дамоў у вёсках Кірава, Галкі і Вялле Брагінскага раёна.

Узровень вады ў Дняпры ў раёне Лоева за апошнія суткі павысіўся на 19 сантыметраў, аднак, як чакаецца, у найбліжэйшыя дні ён пойдзе на спад.

Падтопленымі з пачатку паводкі застаюцца жылыя дамы і падворкі ў трох абласцях краіны. У прыватнасці, у Гомельскай пацярпеў 81 жылы дом і 341 падворак, 117 жылых дамоў аказаліся адрэзаныя вадой. У Віцебскай вобласці падтоплены 66 жылых дамоў і столькі ж падворкаў, у Мінскай — 27 жылых дамоў і 53 падворкі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**КЛІНІКА**

# Жывы труп,

## альбо Зноў пра «саюзную валюту»

У чарговы раз "ашчасліву" нашу сінявокую краіну сваёй увагай дзяржаўны сакратар так званай Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі **Павел БАРАДЗІН.** На спецыяльнай прэс-канферэнцыі ў Маскве ён зазначыў, што адзіная валюта саюзнай дзяржавы, якой, натуральна, з'яўляецца расійскі рубель, можа з'явіцца ў кішэнях беларусаў ужо да канца бягучага года. *"Цалкам магчыма, —* заявіў П. Барадзін, — *што не ў 2006-м, а ў 2005-м альбо нават у канцы 2004 года мы ўвядзем адзіны плацёжны сродак".* З пакета дадатковых дамоўленасцяў па ўвядзенні адзінай валюты, які складаецца з шасці пунктаў, паводле думкі Барадзіна, гатовы да падпісання пяць. Пакуль застаецца няўзгодненай дамова пра падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ).

Раздзяляе аптымізм былога нью-йоркскага вязня і віцэ-прэм'ер урада Расіі **Аляксандр ЖУКАЎ,** які ў інтэрв'ю "Российской газете" ўчора заявіў наступнае: *"Мы лічым, што гэта не толькі магчыма, але і неабходна ўводзіць адзіную валюту з 1 студзеня 2005 года, — як гэта было прадугледжана дамоўленасцямі. Больш таго, на ўзроўні Цэнтральных банкаў, Міністэрстваў фінансаў уся гэта сістэма адпрацавана, і мы далі цалкам канкрэтныя прапановы, якія, дарэчы, прадугледжваюць 20 мільярдаў расійскіх рублёў крэдыту, каб Беларусь здолела бязбольна ўвайсці ў гэтую сістэму".*

*"На жаль, беларускі бок увязвае ўвядзенне адзінай валюты з яшчэ сямю рознымі дамовамі, —* наракае А. Жукаў, — *у тым ліку з выплатай намі нейкіх кампенсацый у памеры больш за 2 мільярды долараў. Мне здаецца, што гэта адбываецца ад непаразумення таго, што ўвядзенне адзінай валюты выгадна, незалежна ад якіх-небудзь іншых дзеянняў беларускага боку. Гэтая мера гатова, і яе трэба ўводзіць. Але беларускі бок пераўтварае працэс у палітычны і, на жаль, тармозіць яго".*

Нагадаем, у канцы сакавіка міністр фінансаў Расіі **Аляксей КУДРЫН** заявіў, што лічыць *"нерэальным увядзенне саюзнай валюты з пачатку 2005 года".* Ён дадаў, што ўвядзенне расійскага рубля ў якасці адзінага плацёжнага сродку на тэрыторыі Беларусі, якое раней планавалася на 2005 год, адкладваецца на год *"у сувязі з няўзгодненасцю пазіцый па пытанні аб кампенсацыі беларускаму боку".* Пры гэтым называлася сума ад 100 да 140 мільёнаў долараў у год. На думку экспертаў, прыкладна такую ж суму Беларусь будзе страчваць штогод, таму што пры ўвядзенні адзінай валюты увесь ПДВ пры экспарце будзе ўплачвацца Беларуссю ў расійскі бюджэт.

Таксама "нерэальнымі" назваў у інтэрв'ю "Народнай волі" былы старшыня Нацбанка Беларусі **Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ** перспектывы адзінай валюты: *"Я лічу, што наогул пытанне пра адзіную валюту падымаць сёння несвоечасова, трэба яго адкласці гадоў на дзесяць. Перш за ўсё таму, што ў нас з Расіяй не створана аднатыпнай эканомікі, у нас не уніфікавана эканамічнае заканадаўства і практыка гаспадарання".*

*"У нашай краіне значна вышэй знос асноўных фондаў, —* упэўнены С.Багданкевіч, — *падатковая нагрузка на дзевяць пунктаў перавышае расійскую, беларуская дзяржава кантралюе ўзровень рэнтабельнасці прадпрыемстваў, каля 90 працэнтаў вытворчасці прадуктаў кантралюецца дзяржавай (пасля ўвядзення "залатой акцыі" кантроль амаль паўсюдны). 44% беларускіх прадпрыемстваў з'яўляюцца стратнымі і трымаюцца выключна дзякуючы нацыянальнай валюце. У выпадку пераходу на расійскі рубель магчыма іх масавае банкруцтва".*

Зрэшты, дарэмна, як сцвярджаюць некаторыя вастраслоўы, дзяржсакратар Барадзін разам з расійскім віцэ-прэм'ерам А. Жукавым наогул выцягваюць "жывога трупа" — адзіную валюту — з саюзнага склепа. Яшчэ зусім нядаўна **Аляксандр ЛУКАШЭНКА** пераконваў аршанскіх ткачых у тым, што ў выпадку ўвядзення ў Беларусі расійскай валюты беларусам у пошуках грошай на зарплату прыйдзецца *"на каленях поўзаць па калідорах расійскага Цэнтрабанка".* А слова Лукашэнкі, як паказваюць сённяшнія палітычныя рэаліі, для нашых банкіраў — закон. Нават больш, чым закон.

**Алесь СІЛІЧ.**

**ТЭНІС: КУБАК ДЭВІСА**

# Расію прайшлі. На чарзе — Аргенціна?

Заўтра ў мінскім футбольным манежы распачнецца матч 1/4 фіналу Кубка Дэвіса, у якім зборная Беларусі будзе супрацьстаяць камандзе Аргенціны.

Нагадаем, што на шляху да чвэрцьфінальнай стадыі спаборніцтваў зборная Аргенціны выйграла ў зборнай Марока з лікам 5:0, а нашы тэнісісты перамаглі каманду Расіі — 3:2. Як вядома, за перамогу над геаграфічнымі суседзямі **Аляксандр Лукашэнка** ўзнагародзіў кожнага ўдзельніка матча ордэнам Айчыны. А **Уладзімір Ваўчкоў** атрымаў ордэн Мужнасці.

На пытанне, ці не бянтэжыць нашых спартсменаў тое, што яны былі ўзнагароджаны менавіта пасля перамогі над расіянамі, капітан зборнай Беларусі **Сяргей Цяцерын** заўважыў: *"Сёння Беларусь і Расія — дзве розныя дзяржавы. Калі б мы жылі ў адной дзяржаве, то, напэўна, было б дзіўным уручэнне гэтых ўзнагарод. А паколькі мы жывем у суверэнных краінах, то нічога дзіўнага ва ўручэнні ордэнаў няма".*

Узнагароды тэнісістам у сваёй рабочай рэзідэнцыі Лукашэнка ўручаў асабіста. З гэтай нагоды беларускі тэнісіст **Аляксандр Швец** нават пазбавіўся сваёй візітнай карткі — барады. *"Хацелася выглядаць на ўзроўні. Спадзяюся, што маё новае аблічча прынясе камандзе поспех",* — сказаў спартсмен.

Тэнісісты падарылі Аляксандру Лукашэнку форму і ракеткі, якімі перамагалі на розных спаборніцтвах. Першы нумар беларускай каманды Максім Мірны прапанаваў Аляксандру Лукашэнку вярнуцца на корт. Як вядома, раней кіраўнік Беларусі часцяком браў ракетку ў рукі, але апошнім часам ён аддае перавагу хакею. Як заўважыў Сяргей Цяцерын, Лукашэнка не даў пэўнага адказу на прапанову, а проста ўсміхнуўся...

Учора ўладальнік ордэна Мужнасці Уладзімір Ваўчкоў святкаваў свой 26-ы дзень нараджэння. Аўтар гэтых радкоў запытаўся ў спартсмена, які б падарунак ён хацеў атрымаць да гэтага свята? Уладзімір з усмешкай адказаў: *"Плюшавага мядзведзянятку! Жартую... Шчыра кажучы, не задумваўся..."*

"Народная воля" віншуе спартсмена са святам, зычыць здароўя і далейшых перамог на кортах! Распачынаць выконваць пажаданні можна ўжо заўтра.

Дарэчы, менавіта ў гэтыя дні тэнісная зборная Беларусі святкуе юбілей — роўна 10 гадоў таму нашы спартсмены пачалі ўзыходжанне да сусветнай групы. Тады наша зборная выступала пад бел-чырвона-белым сцягам. Між іншым, у буклеце, прысвечаным вынікам папярэдняй стадыі Кубка Дэвіса, побач з расійскім трыкалорам знаходдзіцца і сцяг беларускай зборнай — бел-чырвона-белы...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ЧТО ВОЛНУЕТ...**

# Если промолчим сегодня, завтра можем оказаться на улице

Вести с предприятий, сообщения СМИ свидетельствуют о том, что в трудовых коллективах нарастает недовольство в связи с массовым переводом работников на контракты.

На Минском автомобильном заводе на основании письма Министерства промышленности от 30 января 2004 года издан приказ о переводе всех работников на контрактную форму трудового договора. Работников вынуждают писать заявления с просьбой перевести их на такую форму трудового договора, угрожая лишением части премии за отказ. Крановщицы одного их цехов отказались писать подобные заявления. Однако, получив уведомления о переводе на контракты, они вынуждены будут идти на их заключение, обоснованно опасаясь быть уволенными. Условия контрактов сформулированы с нарушением требований законодательства. Так, перевод на контракт не обоснован конкретной причиной для каждого работника, увеличение тарифной ставки в контрактах предусматривается не в связи с изменением формы трудового договора, а за расширение зон обслуживания, к отпуску добавляется только один день, причем с условием его предоставления только после года работы по контракту.

Первичная организация Белорусского профсоюза работников промышленности никаких мер по защите нарушаемых администрацией трудовых прав не предпринимает. Группа работников МАЗа, переведенных на контрактную форму трудового договора и не согласных с причинами перевода, а также с условиями контрактов, намерена обжаловать действия нанимателя в соответствии со ст.242 ТК в Комиссии по трудовым спорам и суде.

Первичная организация Свободного профсоюза Белорусского (СПБ) могилевского завода "Зенит" выразила протест против введения контрактной системы на предприятии. Администрация завода под роспись уведомляет работников о переходе на контрактную форму найма, но при этом не знакомит с содержанием контрактов. По мнению председателя первичной организации СПБ Юрия Новикова, при таком подходе администрации работник даже лишается права в месячный срок ознакомиться с существенными изменениями труда.

Региональная организация Свободного профсоюза Белорусского начала сбор подписей среди жителей Полоцка и Новополоцка под обращением к президенту и правительству Беларуси. Местная организация СПБ обеспокоена сложившейся в последнее время практикой применения Декрета президента №29 от 26 июля 1999 года "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины". "Совершенно очевидно, что при помощи контрактов администрации пытаются задушить набирающее силу рабочее движение, — считает председатель Новополоцко-Полоцкой региональной организации Свободного профсоюза Белорусского Владимир Антонович. — Для этого используются надуманные причины. Причем увольняют не только самых активных рабочих, но и самых грамотных и образованных специалистов. Свободный профсоюз призывает всех трудящихся выступить против кабальной контрактизации. Мы готовим акции протеста, которые в ближайшее время пройдут в нашем регионе. Если промолчим, сегодня уволят наших активистов, а завтра на улице окажутся и другие работники, которые желают отстаивать свои права".

**praca-by.info**

